Hod VIII. Lipień-Žnivień 1936 h. № 7-8.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

...„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



VILNIA

Biełaruskaja Drukarnia im. Franciška Skaryny — Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2.

## ЗЬМЕСТ № 7-8:



## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


## „Шлях Моладзі“

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Складка на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год — 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1—2

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VIII. | Вільня, Ліпень-Жнівень 1936 г. | № 7-8 (93-94). |
| --- | --- | --- |

**Міхась Машара**

* * *

Ізноў шагаю па аржышчы,
Наўкол снапы, снапы, снапы.
Кудлаты вецер песьні сьвішча
Ля кожнай бабкі і капы.

Нядаўна так зьвінеў ў калосьсі
Вясёлы май над васільком.
Цьвілі сады... і ў вербалозьзі
Вясна шаптала з ручайком.

А хутка восень, як калісьці,
Здалёк да нас прыйдзе ізноў.
Разложыць карты жоўталісьця
І захварбуе клён у кроў.

Тугу і сум наўе на сёлы,
Нуду у хаты прынясе,
І будуць будні невясёлы,
Як мох адцьвіўшы на страсе.

— — — — — — —

Жадаў-бы лад зьмяніць я гэты,
Адвечны лад старой зямлі
І затрымаць вясну і лета,
Каб краскі з песьняй век цьвілі.

19.VII.1936.



**Максім Танк**

* * *

Ясна зоры гарэлі,
зорна так, як ніколі;
заблудзіўшыся ў полі,
жнеяк песьні зьвінелі.

Сумна і невясёлым
пералівам калосьсе
гаварыла, што восень
прыйдзе хутка ў сёлы.

Змоўкне лес, як калісьці...
а ў гушчарах, у нетрах
зазьвіняць у паветры
ападаючы лісьце,

абтрасаючы росы,
лісьце дымам чырвоным;
і засьцеляцца лёнам —
павуціньнем палосы...

І ня верыцца неяк,
і ня хочацца верыць,
бо мінець гэты шэры
дзень, як рэха жалеяк.

І хоць сяньня так востра
баляць рукі і ногі, —
папрыходзяць з вастрогаў
нашы жнеі і сёстры.

Днём і ноччу на нівах,
ды ня сьлёзы жалеяк,
будуць весела жнеі
разсяваць пералівы.

І на пасеках чорных
лес падыймецца гонкі,
загамоняць сасонкі
перашумам узорным.

Што-ж, мо' сяньня панура
звоняць нашы напевы, —
часам песьні і дрэвы
заціхаюць прад бурай.

1936.

# Імкненьні і дамаганьні беларускае моладзі на найбліжэйшую будучыню

Жывём у часох розных вялікіх і малых нарадаў, канфэрэнцыяў, кангрэсаў — краёвых і міжнародных, — культурных і палітычных, — ладжаных арганізацыямі людзей старэйшых і моладзі. Вось, напрыклад, у канцы ліпня і на пачатку жніўня сёлета ў Аўстрыі адбыўся XV Міжнародны Кангрэс каталіцкае арганізацыі моладзі „Pax Romana". На пачатку верасьня сёлета ў Бруксэлі (Бэльгія) мае адбыцца агульны міжнародны кангрэс моладзі, на якім маюць абгаварвацца найбольш важныя для моладзі справы.

Аб кангрэсе моладзі ў Бруксэлі ўжо шырака ведама на беларускай вёсцы. Наша рэдакцыя атрымлівае пісьмы, у каторых беларуская вясковая моладзь займае прыхільнае становішча да гэтага кангрэсу, падае свае прапановы дамаганьняў, намячае вехі для становішча беларускае моладзі і нават выстаўляе кандыдатаў на дэлегатаў. Мы аднак, гледзячы на гэту справу цьвяроза, згары можам сказаць, што беларускай моладзі будзе вельмі цяжка выслаць на кангрэс у Бруксэлю сваіх дэлегатаў, як было б цяжка гэта самае зрабіць на які-небудзь іншы, найбольш нявінны, міжнародны кангрэс заграніцай, бо-ж жывём у такіх абставінах, якія нам не пазволяць гэтага зрабіць. Такім чынам, імкненьне беларускае моладзі, выйсьці на шырэйшыя міжнародныя воды, засядаць з моладзьдзю іншых народаў, радзіць над палепшаньнем быту маладога пакаленьня, шукаць выхаду з цяжкага палажэньня, прадставіць усяму сьвету нашыя беларускія імкненьні, нашыя беларускія балячкі, карыстаць з так патрэбнае нам міжнароднае трыбуны, — пакульшто ўсьцяж тамуецца. Верым аднак-жа, што ня век будзем гараваць і што прыйдуць часы лепшыя і шчасьлівейшыя...

Але ня будзем цешыцца прыгожымі надзеямі. Гляньма навокал сябе, пабачма, што робіцца і зрабема з гэтага плян на найбліжэйшую будучыню.

Сяньня нашае палажэньне цяжкое. Сяньня польскія абшарнікі, эндэкі, рознага роду санатары і кансэрватысты, на чале з віленскім „Słowam", адкрыта гразяць нам асыміляцыяй.

Сяньня на вёсцы нашай пашыраецца бяда, беззямельле, безрабоцьце і цемната. Мы, беларуская моладзь, ня маем нават свае арганізацыі, бо адміністрацыйныя польскія ўлады адмовіліся, без паданьня нават прычын, залегалізаваць статут Таварыства Беларускае Моладзі „Будучыня", а таксама і статут Беларускага Спартовага Таварыства „Гайсак". На вёсцы беларуская моладзь ня можа цяпер ужо нават ладзіць вечарынак без дазволу.

Школаў сваіх бадай што ня маем, бо што-ж значаць гэтыя 60 школаў на 1,600,000 беларусаў у Польскай Дзяр-

жаве, паводле польскае ўрадавае статыстыкі (паводле іншых жарол у Польшчы ёсьць больш 2,5 міл. беларусаў), у каторых, як гаварыў Віленскі Школьны Куратар, беларуская мова „ўзята пад увагу"? Што-ж значыць адна беларуская гімназія, і тая несамастойная, на такі хоць-бы лік беларусаў?

Сяньня на беларускай вёсцы часта густа можна спаткаць старых дзяцюкоў, якія ня жэняцца толькі дзеля таго, што ня маюць працы і агулам больш-менш нармальных варункаў да жыцьця. Цяжкія абставіны сяньняшняга дня адбіраюць ім права быць жанатымі. Моладзь наша фактычна марнуе свае маладыя гады і сілы.

Так, цяжка жывецца. Цяжка так-жа вясьці барацьбу за лепшае заўтра. Ня гледзячы аднак на ўсё, мы яе вядзём і вясьці будзем. Найбліжэйшым нашым заданьнем ёсьць бязумоўна справа стварэньня свае беларускае арганізацыі моладзі, справа згуртаваньня і сцэмэнтаваньня сваіх сілаў. Адначасна-ж мы, беларуская моладзь, згуртаваная каля „Шляху Моладзі", імкнучыся да зьдзейсьненьня найвышэйшага свайго беларускага ідэалу, выражанага Актам 25 сакавіка 1918 г., абвяшчаючага Беларусь Вольнай і Незалежнай, **дамагаемся** і заклікаем усю беларускую моладзь дамагацца:

1. Бясплатнага надзелу зямлёй беззямельных і малазямельных сялянскіх беларускіх гаспадарак; працы для беззаботных бел. работніцкаў і беларускае інтэлігенцыі ў дзяржаўных установах.

2. Адчыненьня на тэрыторыі Польскай Рэспублікі, заселенай беларусамі, здавальняючай колькасьці беларускіх пачатковых, сярэдніх агульна-навучаючых і фаховых школаў і унівэрсытэту; у першую-ж чаргу адчыненьня зьліквідаваных беларускіх пачатковых і сярэдніх школаў; зьніжэньня аплаты за навуку ў школах сярэдніх і на унівэрсытэце; стыпэндыяў для незаможных, але здольных вучняў.

3. У галіне пазашкольнае асьветы дамагаемся: — свабоднага разьвіцьця для беларускіх культурна-асьветных і эканамічна-гаспадарчых установаў; свабоды ўладжаньні вечарынак, бібліятэкаў, курсаў для дарослых і народных дамоў, дзе-б свабодна беларуская моладзь магла знайсьці і чытаць сваю беларускую кніжку, газэту, сарганізаваць хор, прадстаўленьне, знаёміцца са спортам і агулам вучыцца жыць пграмадзку і культурна.

4. Роднае беларускае мовы ў сьвятынях — цэрквах і касьцёлах.

5. Урэшце, дамагаемся права выбарчага голасу моладзі ад 21 году, свабоды слова, друку, сабраньня і арганізацыі і агулам забяспячэньня прыроднага права Беларускага Народу на існаваньне, як асобнай нацыі.

Адначасна выражаем свае і ўсяе беларускае моладзі імкненьні да добрага сужыцьця ўсіх народаў.

Мы за цеснае супрацоўніцтва з літоўскаю і украінскаю дэмакратычнаю моладзьдзю, а так-жа з моладзю іншых народаў спрыяючых адраджэньню беларускага народу. Пры тым дамагаемся ад польскае дэмакратычнае моладзі заняць адносна Беларусаў выразнае становішча. Дамагаемся так-жа ад яе заняць выразнае становішча ў справе беларускае школы. Мы хочам ведаць, хто наш вораг, а хто прыяцель. Мы хочам пачуць, што голас асымілятара беларусаў, Cat'а-Мацкевіча з віленскага „Słowa" ёсьць голасам банкрутуючых абшарнікаў, а не польскага грамадзянства і моладзі. Мы ня верым, каб усё польскае грамадзянства, каб польская моладзь мела так кароткую памяць аб сваей гісторыі і так ганебныя пляны, як Мацкевіч...

Сяньня ўвесь сьвет гаворыць аб міры і вайне. Для беларускае моладзі вайна ў сучасны мамэнт зьяўляецца часта надзеяй зьмены на лепшае. Міма таго, беларуская моладзь, гэтыя, аслаўленыя знаўцамі, непераможныя ваякі, а спакойныя па сваей прыродзе і дабрадушныя людзі, добра разумеюць, што вайна ў сучасны мамэнт Беларусам можа даць. Мы ведаем, што вайна прынясе перадусім зьністажэньне моладзі, што ністожыць будзе ўсё, а між іншым і нашую краіну. Мы бачым захопніцкія апэтыты імпэр'ялістаў і ведаем, як страшнай будзе цяпер вайна —таму мы проціў яе. Мы за мір!..

Мы верым, што шляхам усьведамленьня беларускае моладзі, шырокіх беларускіх масаў, шляхам творчае і вытрывалае працы і барацьбы дойдзем да лепшае долі...

Мы, беларуская моладзь, сяньня падаем голас за мір, але аднача́сна дамагаемся так-жа і поўнага справядлівага вырашэньня нацыянальнае праблемы ўсіх пакрыўджаных сяньня народаў, бо йнакш міру ня будзе!...

Я. Н.

**Андрэй Чэмер.**

# На родным палетку [5)]

## V.

— Васіль!... Васіль!... Уставай!!...

— Паліцыянты прыйшлі!... Адзявайся барджэй!...

Ня ўсьпеў нацягнуць на сябе рубашкі і ботаў, як увайшло 3 паліцыянтаў з руж'ямі, рэвольвэрамі і паперамі ў руках.

— „Pan jest Bazyli Hryniewicz?"

— Так. А ў чым справа?...

— „Mamy nakaz zrobić rewizję u pana celem odszukania bibuły komunistycznej i zapasów broni!"

— Броні?... Бібулы?... Але-ж я не займаюся палітыкай, ані вайсковымі справамі і ніякай „броні", ані нялегальных друкаў ня маю!...

— „To dopiero śledztwo wykaże! A teraz dokonamy rewizji osobistej. Nikomu nie wolno opuszczać pokoju!“

— — — — — — — —

* * *

Рэвізія трывала блізу шэсьць гадзін. Вынікі яе для Васіля былі дадатнія, бо ж ані „бібулы“, ані „броні“ ў яго ня было, затрымана аднак была карэспандэнцыя і Васіля ўсё-ж-такі паліцыя арыштавала. Апрача яго арыштавалі яшчэ некалькі найбольш энэргічных хлапцоў і павязьлі няведама куды. Тыя, што асталіся ў вёсцы, ня ведалі што рабіць, хоць горача спачувалі арыштаваным, ведаючы якія „прыемнасьці...“ будуць іх спатыкаць Аставалася толькі чакаць.

Горш было з каапэратывам. Цэнтральнай пружыны — Васіля ня стала... Заступіць — ня вельмі знаходзілася каму. Прапаў запал і тая нязломная воля, якую меў Васіль.

Старыя сяляне, бачачы, што ў справу ўмяшалася паліцыя, чым скарэй адсунуліся ад каапэратыўнай акцыі, здаючыся на іншых.

Алеся, перапалоханая арыштамі, ня ведала наагул што пачаць. Адным словам запанавала бязладзьдзе і хаос...

Так трывала некалькі тydняў. Аж пэўнага дня Сёмка атрымаў ліст ад Васіля, у якім той пісаў, што няма чаго вельмі клапаціцца, паліцыя яму нічога ня зробіць, бо няма ніякае віны.

Далей, радзіў Сымону і Алесі зьвярнуцца да настаўніка Грэчкі, які не адкажацца памагчы ў справе каапэратыву. І больш нічога ў лісьце ня было, апрача замазаных цэнзураю радкоў.

Парадзіўся Сымон з хлапцамі, паклікаў Алесю ды пайшлі да настаўніка Грэчкі.

Аднак пасколькі ўчынным і талковым аказаўся настаўнік, пастолькі знайшліся перашкоды паміж самых сялян. Нават тыя дзядзькі, што дакляравалі даць паі, цяпер адгаворваліся то сяк, то так, кожын чакаў на другога; адным словам, ня мелі патрэбнага зразуменьня для так важнай справы.

Праўда! мельнік Брычкоўскі, Дзядзька Антось Магіла ды яшчэ некалькі сьведамейшых людзей адразу далі складку, але гэтага было мала.

Тады настаўнік, Алеся, Сымон і яшчэ некалькі хлопцаў ды дзяўчат, — пастанавілі самі зложыць свае паі і зьвярнуцца з заклікам да моладзі іншых вёсак.

— Старыя ня хочуць, то й ня трэба! — казала Алеся. — Самі дамо рады!

І праўда! Моладзь ахвотна гарнулася да каапэратыву, ня слухаючы зьвягі здраднікаў і чужынцаў.

Хто колькі мог даў адразу, а рэшта дапаўнялася то заробкамі, то ў складчыну, то сям-там дапазычыўшы...

Крыху з Зарэчча, крыху з ваколічных вёсак—ды й так, цераз тыдняў 3—4 сабралася каля 40 паеў па 15 злотаў.

З гэтым справу можна было пачынаць, тым больш што ўдалося коопэратыву залегалізаваць.

## VI.

Мінула пяць гадоў. У Зарэччы, як што году, адбываўся на Пятра фэст. Пагода была нязвычайна прыгожая. Сонейка тысячамі праменьняў абсыпала дасьпяваючае збожжа, серабрыстымі пералівамі мігацела ў рухлівых хвалях возера, залаціла саламяныя стрэхі вясковых сялібаў. На небе ня было аніводнае хмаркі.

Вецер пяшчотна шапацеў лістамі прыдарожных бяроз.

Яшчэ зранку маладыя і старыя, хто па сабе, хто грамадкамі з усіх бакоў пстракатымі шнуркамі цягнуліся ў Зарэчча.

Вясёлыя гутаркі, сьмехі і жарты былі чутны па ўсіх сьцежках і дарогах. Жыцьцё быццам выступіла з берагоў і пералівалася жывымі фарбамі буйнай моладасьці, энэргіі і надзеі.

Сотні фурманак, пад гукі шаластуноў, мкнулі на фэст, мінаючы і абкідаючы дарожным пылам пешых падарожных.

Але ня ўсе сьпяшаліся на фэст.

Вёрст дваццаць ад Зарэчча, чуць сьвет выйшаў са Старгораду дзядзька Трахім. Цесна зьвязаны клунак за плячамі, падарожны куфэрак і кій у руках. Ішоў паволі, разглядаючыся, прыпамінаючы сабе кожын куст, кожнае дрэва, кожын курган.

Пятнаццаць год таму назад выехаў з дому, а цяпер з далёкай Францыі вяртаецца ў родную вёску.

Бацькі даўно памерлі, астаўся толькі брат і замужняя сястра. Зарабіў трохі грошаў на чужыне, трэ' дакупіць сёетое да гаспадаркі, прымасьціцца пры брату ды дажываць век на бацькаўшчыне...

Шмат што зьмянілася ад часу выезду дзядзькі Трахіма.

Вёскі разбудаваныя, лясы павыкарчоўваны, новыя дарогі папракладаны...

„А як мая родная вёска выглядае?“—думаў сабе Трахім.

„Ці тая-ж самая галеча, вызыск жыдоў і абшарнікаў?.. Ці такая-ж самая цемната, п'янства і бруд, як даўней?“

Бо, пабачыўшы заходнія краіны, зразумеў дзядзька Трахім, як далёка адстаў наш народ ад другіх, як занядбаныя і пакрыўджаныя гэтыя шэрыя беларускія вёскі...

Выехаў Трахім з бацькаўшчыны несьвядомым беларусам.

На чужыне пыталіся ў яго: хто ты? Казаў—рускі. Але расейцы сьмяяліся з яго гутаркі і ня прыймалі ў сваю кумпанію. Казаў — паляк, але папольску таксама ня ўмеў гаварыць і між палякамі чуўся чужым і адзінокім. Вось тады сустрэў дзядзька Трахім сьвядомага беларуса Гутара, які яму адкрыў вочы на праўду. Ад таго часу дзядзька Трахім пачаў цікавіцца беларускім рухам, выпісваць родныя газэты,

дзе чытаў пра далёкую родную краіну. Працуючы ў францускіх капальнях, мроіў аб тым, як-бы йначай цяпер рабіў, — каб апыніўся на бацькаўшчыне... Як адкрыў-бы братом-сялянам вочы на зьдзек і крыўды, якую яны церпяць, і на способы барацьбы з імі.

І вось цяпер мрыя сталася праўдай! Ізноў ён на бацькаўшчыне, ізноў чуе навакол родную мову, ізноў аглядае родныя сялібы і палеткі...

А вось і родная вёска Зарэчча!... Здалёк блішчыць крыж вясковай цэркаўкі на ўзгорку, белым пасмам, як страла, бяжыць вуліца між сялянскіх хат, жывым люстрам блішчыць возера ля млына...

Здалёку далятае так знаны гук званоў, відаць каляровыя, быццам кветкі, вопраткі жанчын і сялян.

— Ах, праўда! Сягоньня-ж фэст! — прыпомніў дзядзька Трахім. А вось і дом! Як даўно ня пераступаў гэтага парогу... Але ў хаце нікога не застаў, пакінуў клункі і пайшоў далей на вёску.

Замест гразкіх каляінаў і шырокіх лужын, вуліца гладка выбрукавана. Нямала хат пакрыта бляхаю, а сям-там відаць будынкі з бэтонных пустакоў...

А гэта што за прыгожы, прасторны гмах? І нейкая вывеска? — Ах! Родная беларуская школа!... А там: „спажывецкі сялянскі каапэратыў „Грамада.“ Вайшоў дзядзька ў сярэдзіну: прасторнае памешканьне, на паліцах поўна розных тавараў, на сьцяне беларускі календар, партрэт Купалы, Пагоня...

Радасьць адняла мову Трахіму. Вось дачакаўся, — думае сабе. — Відаць тут нехта выперадзіў мае намеры...

Прыгожая дзяўчына, адправіўшы іншых кліентаў, зьвярнулася да яго: „Вы, грамадзянін, чаго жадаеце?“

Але адкуль гэтае дзяўча?... Папросту вылітая Ганна Драчыха!... — Выбачайце, ці вы не дачка Міхася Драча?...

— Але. А вы здалёку, грамадзянін?

— О, паненачка, вы ня памятуеце... Я брат Хведара Буйды, вярнуўся з Францыі на бацькаўшчыну.

— А!.. Вось добра! Я чула ўжо з вашых лістоў да брата, што сьвядомы з вас чалавек.

Ну, вельмі добра! Яшчэ адным сябрам узбагаціцца каапэратыў. А сягоньня не забудзьцеся прыйсьці на сьвята 5-х угодкаў існаваньня нашага каапэратыву!

Адбудзецца ў нашым уласным будынку беларускай школы.

„Так, —разважаў Трахім выходзячы з каапэратыву. А усё ж такі не прападзе наш народ! Памаленьку, памаленьку, ачнецца ад векавога сну, пачне новае будаўніцтва, будаўніцтва працоўных і будзе жыць так, як трэба...

*(д. б.)*

**Максім Танк**

# У дарозе.

*(Шкіцы з Наваградчыны)*

Вечар.

Далёка разьвярнулася поле зрэзанае безканечнымі межамі, быццам хтось выцягнуў на расу, бяліць палотны — вузкія палосы.

Нас дзесяць чалавек. Усе маўчаць. Кожны аб нечым думае... Я гляджу на Наваградчыну, на пакрытыя густым, кудлатым жытнім дыванам узгоркі і, здаецца што перадамной ляжыць шырокае як вокам абняць усхваляванае, застыўшае мора. Ляглі першыя вячэрнія цені, а цішыня чутка прыслухоўваецца да кожнага голасу ці неасьцярожнага шопату калосься. .

Наперадзе загяялі.

— Дзядзька, далёка йшчэ вёска?

— Два ці мо' тры кілямэтры...

— Каб толькі бяз гаку. – А там што за будынкі відаць? Кажыш: панскія, і лес таксама?

Ляжаць каля дарогі палосы,—далей шырокае панскае поле, а песьня гавора: Люблю свой край.. народ... і хаты... і нівы...

І я таксама адчуваю, што ўсё гэта моцна люблю і неяк сумна. Здаецца прылёг-бы грудзьмі да зямлі, прыслухаўся-б і... калі-б яна маўчала, сам расказаў-бы ёй аб гусьцейшым калосьсі, і аб больш шчасьлівых песьнях, якія яна пачуе.



Гледзячы на краявід прыпамінаю блізкіх, знаёмых і народ, які кожны дзень на ўсіх этапах адраджэнскага руху ахвярна здабываў і здабывае кожны крок.

З-заду засталося, сярод густога алешніку, сагнутага галалёдзіцай бярэзьніку, як гняздо зьвітае ў гушчары, возера Сьвітазь. Дарога падымаецца пад гару, здаецца самі мы яе цягнем за сабой, цяжка ідучы. А над намі і над зямлёй вісіць з рэдкімі неўраджайнымі зорамі ноч.

— — — — — — — — — — — — — — —

Адны ляглі спаць, другія гавораць, пяюць. Каля варот пуні сабралася жменя вясковай моладзі.

— Прыйшлі паслухаць вашых песьняў, гаворыць адзін з хлапцоў... — Школьная акцыя цяжкавата ідзе, усялякія перашкоды і прэсу сваю беларускую атрымліваем слаба... Сям-там сарганізаваны вясковыя беларускія каапэратывы...

— Мы ўжо няраз падавалі заявы на свае вечарыны. Не даюць дазволу. Закладалі гурток ТБШ. Не залегалізавалі... Цяпер падалі на БІГіК і тое самае...

Кажнаму з нас ведама, што ўсё гэта вымагае працы, расходаў і адначасна падрывае веру ў грамадзкія сілы.

Але глядзячы на чалавека, які спакойна аб гэтым гавора, бачыш у ім франтавіка, які расказвае аб панесеных ахвярах, часта глыбокіх і балючых, і адначасна чалавека поўнага веры ў слушнасьць сваей справы.

— Вось пайшло з нашай вёскі пару хлапцоў у Бярозу, з другіх вёсак таксама... На другую нядзелю думаем зладзіць забаву, паставіць нейкую рэч. Толькі вельмі бедныя мы на сцэнічныя творы. Старыя рэчы раз дваццаць перайгралі, ды не на нашы плечы яны пісаныя. Жыцьцё зусім іншае. Вось хоць-бы і ў нас... Можа што ў вас у Вільні такое напісалі-б, простае, блізкое, дзе ня трэба было-б з сябе дурняў корчыць на сьмех...

Ідзём далей на Кромань, на Любчу.

Шырока раскінуліся наднёманскія сенажаці, далей відаць лес-пушча нейкага графа. Зноў запяялі дзяўчаты. Песьня прыпомніла мінулы дзень. Мы праходзілі каля маёнтку. Каля сарака жнеяў за машынай вязала снапы. Каля дарогі стаяў наглядчык. Было пад вечар. Канчаючы працу жнеі пяялі, пяялі голасна, але без таго глыбокага, хвалюючага пачуцьця, якое чуецца ў народных песьнях. Прыслухаюся. Пяялі яны нейкае „танго"...

— Вось і лес. Ня так горача будзе йсьці — адазваўся адзін з калегаў.

Малады густы сасоньнік цесна сплёўшыся. Толькі дзенядзе сіратліва падымаюцца старкі, адкідваючы на дарогу густыя, пахучыя смалой цені.

Вільня. Ліпень 1936 г.

**Базыль Камароўскі**

* * *

Як шуміць васільковая ніва,
як вецер шапоча таполі —
гэты шум
я душою украў мімаволі
і заплёў у мільён ціхіх дум;

як шэпча белатварай бярозцы
вецер казкі жыцьця
пад сакрэтам —
мімаволі падслухаў іх я
і ў песьню кладу казкі гэтыя;

і з пад стрэх саламяных, дзіравых,
дзе вецер вольны гуляў
танец — мяцеліцу —
таго танцу я гукі украў:
панясу іх на вёскі й аселіцы;

дзе плачуць галодныя людзі
на прадвесьні —
улавіў гэты плач я у грудзі,
а цяпер запляту яго ў песьні;

тую песьню, што скаргаю льецца,
што над ніваю — палоскаю
напявае жняя —
я украў і так ціха над вёскаю
ўсім пакрыўджаным напяваю я.

1936.



# Z vandroŭki pa Navahradčynie.

„O, kraj rodny, kraj pryhožy,
Miły kut maich dziadoŭ!“ — pisaŭ naš słaŭny Kołas. I zapraŭdy cudoŭnaja našaja Kraina Biełaruś. U jaki-by jaje kutok nia chiliŭsia — uciešyšsia pryhožaściu rodnaha Kraju.

Pałova lipnia. Chvalistyja pali ŭvienčanyja biełaruskimi pracoŭnymi rukami: strojnymi radami stajać kałasistyja dziesiatki zbožža. Bialejuć hrečki, razsyłajučy miadovy zapach ruplivym žniejam. Dzie-nia-dzie ciešyć voka razasłany śvietła-čyrvony dyvan kaniušyny. Šapoča i chvalujecca kałośsie jačmieniu. Tam i siam siadziać spoźnienyja kopki siena Dzie-nia-dzie bliščać vaziorca.



Hetkaja našaja Navahradčyna! Darožkami henaje ziamielki, minajučy sioły i miastečki, vandruje hramadka moładzi — dziaŭčata i chłopcy. Niekalki viełasypiedaŭ (roveraŭ) z bieł-čyrvona-biełymi ściažkami.

Heta — vybieh biełaruskaj studenckaj moładzi i jejnych sympatykaŭ.

Iduć da svaich. Iduć u narod. Iduć u svaje rodnyja vioski, kab paznać biedy i kryŭdy svajho pracoŭnaha brata, kab naciešycca pryhožaściu rodnych paletkaŭ, ablitych potam harotnaha sialanstva.

Iduć badzioryja, poŭnyja nadziei ŭ śvietłuju budučyniu, poŭnyja siły i hartu da zmahańnia za pravy svajho narodu.

Mačulna. Sialiba kalehi Vojteńki. Pieršy načleh... Sum i abureńnie: niekalki hadzin pierad prychodam studenckaj hramadki kalehu Vojteńku palicyja aryštavała i paviazła ŭ Navahradak.

Sumnaja matka apaviadaje, što kalehu Vojteńku byccam uziali za školnuju akcyju...

Valaŭka. Pravasłaŭny chvest Piatra i Paŭła. Ludna i hučna. „Prošen panuv vejść v podvuže“ — zahadyvajuć palicyjanty — čałaviek šeść mundurovych i niekalki tajnych. Usich nas u panadvorku „lehitymujuć“...

U chvalach voziera Švitazi zabyvajemsia pra roznyja prykraści.

Švitaź — voziera Mickieviča — ničym nia roźnicca ad inšych pryhožych biełaruskich vazioraŭ. Dziakujučy henamu paetu, pryciahaje jano bolš turystaŭ palakcŭ, jakija ŭvodziać dyssonans ŭ biełaruskija vakolicy hetaha voziera.



**Mirski zamak.**

Minajem miastečki i sioły. Voś miastečka Mir krasujecca z pryhožym zamkam, a voś ža i vialikaja Nalibockaja pušča i jejnaje voziera Kromań. Troški mienšaje jano ad Švitazi, ale moža navat pryhažejšaje. I zapraŭdy, tut bolš prytulna; dyk i našaja hramadka zatrymałasia na daŭžej. Tut u hetaj puščy čulisia jak doma. Našyja miłyja dziaŭčatki vyjavili tut svoj vialiki fizyčny i duchovy hart. Pieranosili viesieła roznyja niavyhody, a niekatoryja advažna pierapłyvali hłybokaje voziera Kromań (bolš kilametra).

Ale byvaj, Kromań!... Iznoŭ sioły, miastečki, rečki, uzhorki, lasy, nivy kałasistyja, sienažaci. A voś zbližajemsia da stalicy Navahradčyny — Navahradka.

Tut užo ŭzhorki pavialičvajucca štoraz bolš i na najvyšejšym z ich spatykajem sam Navahradak. Miesta nievialikaje, ale pryhožaje. Čuvać i vidać biełaruskaść. Dzie-nia-dzie spatykajucca biełaruskija vyvieski; čutna biełaruskaja mova.

Na pryhožaj horcy styrčać ruiny Hiedyminavaha zamku. Z hetaj horki, jak na dałani, vidać daloka ŭva ŭsie baki vakolicy Navahradka.

Stajała biełaruskaja studenckaja moładź na zamkavaj hary, hladzieła ŭdal i dumała ab budučyni Navahradčyny i ŭsiaje Biełarusi; ab jejnaj doli, jakuju moładź musić vykavać u harnie ŭsiaho biełaruskaha pracoŭnaha narodu.

Prypaminajučy projdzienyja miastečki i sioły, dzie vidać było narodny biełaruski ŭzdym, ućviardžałasia pierakanańnie, što **Biełaruś žyvie i budzie žyć.**

Pad hetkim kličam raźviazałasia ŭ Navahradku sioletniaja biełaruskaja studenckaja vandroŭka.

Uł. K.

---

А Івэрс

## КАСЬБА.

Зазванілі па лугу
У стальныя косы —
Пакаціўся звонкі гул
Па крыштальных росах.

Там, дзе некалі трава
Буйна каласіла, —
Там кладзе за валам вал
Селянін — асілак.

Пад узмахамі касы
З кветкамі калосьсе
Дыямэнтамі расы
Плачам залілося:

„Нашу зрэзалі красу,
Маладыя годы —
Панясе балотам сум
Ветру дзікі подых“...

На лугу — трывожны сум,
Ў сэрцы — боль і раны...
З ранку самага кашу
Не сабе, а пану!

Эх, калі пачнуць зьвінець
Косы звонка ў сёлах..
Разьлівае чырвань-медзь
Сьвежым ранкам золак.

Думны

* * *

Доўга чаканае жніва настала —
Працы заўзятае й цяжкае час.
Але на сэрцы лягчэй неяк стала:
Новы хлябец будзе ў кажнага з нас.

Жытнія нівы пасьпелі на полі,
Дзе із малітвай хадзіў гаспадар —
З верай-надзеяй на лепшае ў долі
Кажны зьбірае засеяны дар.

Многа іх выйшла і моц не малая...
Выйшлі ў сьпякоту пот свой праліць...
Выйшлі па хлеб — Беларусь маладая
Далей ня можа ў голадзе жыць.

С. Хмара

# ЖНІВО.

Бы ў трасцы якойсьці паўднёва паветра
Гатуецца, скача, танцуе
...Хоць хмарка-б адная!
...Хоць подых-бы ветру!
...Сярэдзіны ...рук аж ня чуюць.

Набегла кроў ў вочы. Пот рагамі—тварам;
Паветра ў грудзёх не хапае...
А з заду аконам — праклятаю марай
Ўсьцяж гыркам сваім падганяе.

І шэпча калосьсе зьнямоглым ціхутка:
Надыдзе пара нязвычайна!
І зьверне палеткі тут трактар магутны
І пойдзе па полі камбайна.

Шапочуць калосьсі аб зьмене вялікай,
А сонца сярпамі гуляе.
Гэй прыйдзе! Йшчэ прыйдзе канец пары дзікай!
К' нам іншыя дні завітаюць!

Казлоўшчына, 25.VII.36.



